*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 35 (622) 24 ВЕРАСНЯ 2003 г.

## Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ



21 верасня 2003 года ў Горадні прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Гарадзенскай абласной арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны". На канферэнцыі прысутнічалі Старшыня ТБМ Алег Трусаў і першы намеснік Старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч.

Канферэнцыя заслухала справаздачныя даклады старшыні Гарадзенскай абласной арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алеся Місцюкевіча і старшыні рэвізійнай камісіі Марыі Жукевіч.

Канферэнцыя абрала новы склад Гарадзенскай абласной рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" з 9 чалавек і рэвізійную камісію з 3 чалавек. Старшынём Гарадзенскай абласной рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" зноў абраны Алесь Місцюкевіч, намеснікамі абраныя Алесь Крой і Ірына Данілеўская. Канферэнцыя абрала ад абласной арганізацыі 5 дэлегатаў на VIII з'езд ТБМ. Яшчэ 4 дэлегаты ад Гарадзеншчыны ідуць па-за квотай, як сябры рэспубліканскай Рады, 19 дэлегатаў вылучаюць раённыя і гарадскія арганізацыі вобласці. Такім чынам гарадзенская дэлегацыя на з'ездзе мае быць дастаткова прадстаўнічай.

На канферэнцыі прайшла плённая і зацікаўленая гаворка пра стан спраў з пытаннямі беларускай мовы і беларускай адукацыі на Гарадзеншчыне. На сёння структуры ТБМ ахопліваюць практычна ўсе раёны вобласці. Значная частка іх зарэгістраваная ці пастаўленая на ўлік у мясцовых органах улады. Іншыя спрабуюць гэта зрабіць. Найбольш масавы ТБМ-аўскі рух на Лідчыне, дзе ў дзве лідскія арганізацыі ўваходзіць намінальна 616 чалавек, што складае больш паловы сяброў ТБМ вобласці. Безумоўна не ўсе яны беспярапынна змагаюцца за мову, але гэтая маса дазваляе рэкрутаваць усё новых і новых людзей да актыўнай дзейнасці.

*(Заканчэнне тэмы на ст. 2.)*



**Старшыня ТБМ Алег Трусаў уручае падзяку старшыні Гарадзенскай абласной арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алесю Місцюкевічу за плённую працу арганізацыі ў 2001 - 2003 гадах.**

## 100 гадоў з дня народзінаў Наталлі Арсенневай



20 верасня споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Наталлі Арсенневай, паэткі-равесніцы 20-га стагоддзя. Яна прыйшла на свет на трэцім годзе ад яго пачатку і пайшла за тры гады да канца. Яе лёс быў такі ж трагічны і пакручасты, як і лёс самой Беларусі. Яе нязломнасць і непахіснасць як вырак Беларусі на нязломнасць і непахіснасць.

Для таго, каб навечна застацца ў гісторыі Беларусі, ёй дастаткова было напісаць адну "Малітву", вядомую ўсім, як "Магутны Божа...". Яна напісала і зрабіла значна больш.

Беларуская дзяржава не захацела мець сваім гімнам "Малітву" Арсенневай, але паэт, малітва і дзяржава - гэта былі заўсёды вельмі розныя рэчы. Беларускі ж народ не забывае сваю паэтэсу. Гатовы ўжо макет мемарыяльнай дошкі да стагоддзя Арсенневай. І толькі грошы сёння вызначаюць, калі і дзе гэтая дошка будзе ўсталёвана на вечную памяць паэткі.

## Давыду Гарадзенскаму ад удзячных нашчадкаў



**20 верасня ў Горадні каля Каложы ўрачыста адкрыты памятны камень на гонар вялікага беларускага палкаводца князя Давыда Гарадзенскага. Скульптар Уладзімір Панцялееў.**



№ 35 (622) 24 ВЕРАСНЯ 2003 г. наша слова

# Як я прыйшоў да беларускай мовы?

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

***Ігар, бухгалтар***

Як я прыйшоў да роднай беларускай мовы? Натуральным чынам, бо жыву на гэтай зямлі, якая ёсць беларускай. Мая бабуля па маці - беларуска, якая не адраклася ад сваёй мовы і не імкнулася размаўляць на "культурном русском языке". І для мяне, колькі сябе памятаю, беларуская мова была сваёй, натуральнай. Калі з ўвосень вяртаўся з вёскі ў Менск, сябры пыталіся: "Что это ты на белорусском языке разговариваешь?" – і я адразу пераходзіў на расейскую мову. Калі ж прыязджаў на лета ў вёску наступным разам – ізноў неўпрыкмет пачынаў размаўляць па-беларуску…

Але паступова "савецкае выхаванне", скіраванае на фармаванне з мяне "культурного (чытай – расейскамоўнага) человека", зрабіла сваю справу і ў школьныя гады я нават пагардліва ставіўся да нашай мовы. Праўда, у старэйшых класах, з маім станаўленнем як асобы, памянялася і тое маё стаўленне. Калі вывучалі па праграме раман Івана Мележа "Людзі на балоце" – зразумеў, якая гэта грунтоўная кніга. А ў мяне ж існавала – пад уплывам "общественного мнения" – уяўленне, што па-беларуску "ничего интересного написать невозможно". І гэта не толькі пад уплывам адукацыі, але і ўсяго нашага жыцця, калі толькі і дзяўбецца: "Ах, это ж по-белорусски! Ах, это белорусское радио! Ах, это белорусское телевидение"… Такое пагардлівае стаўленне, выпестанае ў часы каланіялізму, атручвае падсвядомасць, і яго потым цяжка пазбыцца. Цяжка пачынаць чытаць па-беларуску, калі да гэтага не прывучаны. Тую ж кнігу "Людзі на балоце" я доўга чытаў, можа, два месяцы, кожны дзень па паўгадзіны-гадзіне. Але далей – болей, я стаў чытаць беларускую літаратуру, набываць кнігі, часопісы, пачаў шукаць беларускамоўных людзей, каб з імі стасавацца. І цяпер хацеў бы заўжды карыстацца толькі роднай моваю, такою ж "людзкай і панскаю", як і кожная іншая.

***Сяржук, індывідуальны прадпрымальнік***

Маё маленства прайшло ў горадзе усесаюзнай будоўлі Светлагорску. Гэтым сказана ўсё, бо мовай "савецкага інтэрнацыяналізму і камунізму" была выключна расейская.

Але вось пасля школы прыехаў паступаць у інстытут у Менск. І тым першым мінаком, да якога я, прыехаўшы ў беларускую сталіцу, звярнуўся, аказаўся беларускамоўны чалавек, які надта добра (і бескарысліва) дапамог мне зрабіць патрэбныя крокі на новым, самастойным шляху.

Тая выпадковая сустрэча і сталася для мяне святлом, якое дапамагло выйсці на прыўкрасны гасцінец роднай беларускай мовы.

***Святлана, выкладчыца музыкі***

Маё дзяцінства прайшло на Стаўбцоўшчыне, у сям'і настаўнікаў. Бацька – мясцовы, з Рубяжэвічаў, мама – усходніца, з Віцебска (прыехала працаваць сюды пасля вайны, паколькі заходнія, нядаўна далучаныя вобласці, былі больш хлебныя). Расла я з вясковымі дзецьмі –Данкамі, Вандамі, Чэсямі, Стасямі – і з дзяцінства чула вакол сябе вельмі добрую беларускую мову, сама ёю размаўляла. Але дома ў нас расейская мова лічылася нібы больш інтэлігентнай – гэта ішло ад маці, якая была ў сям'і нібыта "ідэёлагам", усе яе слухаліся (сама яна скончыла расейскамоўную вучэльню, да таго ж вайну перабывала ў Расеі –у Арэнбурзе).

Бацька напачатку выкладаў беларускую мову і літаратуру ў школе, то, натуральна, і дома мова гучала, у размовах закраналіся літаратурныя тэмы; але з цягам часу перайшоў на адміністратыўную работу (дырэктар школы, пасля загадчык РаяНА) і, "як належыць" у нас начальству, паступова пачаў карыстацца пераважна расейскай мовай, дакладней яе мясцовым варыянтам.

Ужо ў Стоўбцах я трапіла з вясковай беларускай школы ў гарадскую расейскую (зноў-такі, як бы "вышэйшую статусам, больш перспектыўную"). Тут ужо і мае новыя сябры карысталіся галоўным чынам мясцовым варыянтам расейскай мовы - у гэтым я і "варылася".

Што ж да беларускай мовы, то я яе ведала з дзяцінства, чытала шмат беларускамоўных кніжак (памятаю, тыя ж "Прыгоды Бураціна" я чытала ў беларускім перакладзе). Абедзве мовы суіснавалі ў маёй свядомасці без усялякіх праблем, але на ўзроўні падсвядомасці ўсё ж укаранялася ўяўленне, што беларуская мова – "вясковая", "адсталая", "учарашні дзень", а расейская – "гарадская", "перспектыўная", "інтэлігентная", і "менавіта ёю трэба карыстацца адукаванаму чалавеку". У дзяцінстве ўсе мы вучыліся ад старэйшых і ўспрымалі свет некрытычна, не задумваючыся асабліва над нейкімі складанымі для нас рэчамі.

Такая моўная іерархія не парушылася, а нават болей замацавалася падчас вучобы ў інстытуце. Менск гаварыў па-расейску: уся інфармацыя, усё, што мы бачылі і чулі, падавалася амаль выключна на адной гэтай мове. Беларуская мова і літаратура вывучаліся, але толькі як прадметы, усе так да іх і ставіліся. Крыўдна ўсё ж, што нашыя выкладчыкі гэтых прадметаў ставілі сваёй задачай толькі даць пэўныя веды, але не выхаваць нас нацыянальна свядомымі людзьмі, мала тлумачылі нам значэнне роднай мовы менавіта ў нашым жыцці і ў жыцці народа. Магчыма дзесьці ўскосна пра гэта і казалася (і хто меў вушы, той чуў, вядома), але ніколі -- адкрыта, непасрэдна, а з намі так і трэба было гаварыць. Але ж такія тады былі часы. Не было ўстаноўкі, дык не было і такой размовы. І мы ў сваёй большасці так і засталіся сляпымі і несвядомымі, хоць і з вышэйшай адукацыяй.

Калі ж пасля заканчэння інстытута я ўладкавалася на працу ў педагагічную вучэльню выкладчыцай музычных дысцыплінаў, то патрэба ў беларускай мове адпала зусім. У гэтай краіне (СССР), у гэтым горадзе, на гэтай працы, у гэтым асяроддзі можна было і не ўспамінаць ніколі, што ты беларуска, што ў цябе ёсць твая родная беларуская мова.

Разуменне ненармальнасці такога стану рэчаў прыйшло пазней, упершыню, здаецца, падчас знаходжання на курсах удасканалення кваліфікацыі ў Кіеве (гэта быў канец 1970-ых гадоў). Туды з'язджаліся выкладчыкі музычных дысцыплін сярэдняга спецыяльнага і вышэйшага звяна з усяго Савецкага Саюза, але найбольш з Украіны. Мяне тады моцна ўразіла, што ўсе ўкраінцы карысталіся ўкраінскаю мовай – і ў побыце, і на занятках, што яны ведалі мноства ўкраінскіх песень і цудоўна іх спявалі. Што многія з іх выдатна ведалі ўкраінскую літаратуру ды гісторыю, часта вялі размовы на такія тэмы. Усё гэта выглядала на нейкі зусім іншы культурны ўзровень, чым у тых жа выкладчыкаў у нас, дый сам узровень іх нацыянальнай свядомасці (з такой з'явай я ўвогуле ўпершыню сутыкнулася). Тут і мне, ці не ўпершыню спатрэбілася веданне беларускае мовы – для лепшага паразумення з украінцамі, а таксама, калі ўзнікла патрэба зрабіць пераклады з беларускай ды штосць там удакладніць па просьбе нашых выкладчыкаў. Мне было прыемна, што я здолела зрабіць гэта без усялякіх праблемаў – адна сярод усіх нашых, з Беларусі. Калі ж наступным годам я патрапіла ў Львоў і Закарпацце, то зноў адчула сябе ў атмасферы каларытнай украіншчыны – прыгожая ўкраінская мова, дзівосныя песьні. На гэтым фоне нашая звыклая савечына выглядала нейкай нібыта плябейскай і нават пашлаватай. Прайшоў час, і гэтак сама я пачала ўспрымаць яе ў параўнанні з усім сапраўдным беларускім.

Урэшце там, ва Ўкраіне, я ўбачыла іншае стаўленне да роднай мовы, прыклад таго, як быць павінна. Але мой шлях да беларускай мовы быў яшчэ доўгім. Першыя званочкі зазвінелі дзесьці ў сярэдзіне 1980-ых. Я заўсёды шмат чытала (чытанне ў савецкія часы замяняла многім з нас жыццё), і не толькі па-расейску, але і па-польску, па-украінску і, вядома, па-беларуску. Тады ўжо любіла паэзію, чытала шмат вершаў. Дык вось, вершы на беларускай мове выклікалі нейкі надзвычайны рэзананс. Сам іх тон, мелодыя зачароўвалі, я адчувала ў іх нейкую асабліва моцную энергетыку, непадробнасць, сапраўднасць, натуральнасць. Асобныя словы і выразы падаваліся надзвычай шляхетнымі, нібыта рамантычна-старадаўнімі, і закраналі патаемныя струны душы, вабілі нейкай таямнічасцю, неспазнанай запаветнай глыбінёй. Рабілася крыўдна, што я не магу (а чаму не магу?), ні так пісаць, ні гаварыць па-беларуску. Аднойчы, болей жартам, я паспрабавала напісаць вершы па-беларуску. На здзіўленне, у мяне штосьць атрымалася. Пасля яшчэ, і яшчэ… Гэта азначала, што я ведаю мову лепей, чым мне здавалася. Родная беларуская мова нібыта ляжала на дне свядомасці незапатрабаваная і чакала свайго часу. Ува мне абудзілася цікавасць да ўсяго беларускага, я пачала болей пісаць і чытаць на мове, наведваць літаратурныя вечарыны, выпісваць беларускамоўныя выданні, паступова пачала гаварыць па-беларуску. Мая беларуская мова паступова выйшла са стану анабіёзу і абудзілася да актыўнага жыцця. І калі ў канцы 1980-ых пачалося ў Беларусі нацыянальнае адраджэнне, я ўжо была да яго падрыхтаваная. Адразу ўспрыняла адэкватна ўсе яго ідэі, сапраўда адкрылася мне, здавалася, без прамаруджання. Я ўбачыла мноства вельмі разумных, смелых, высакародных людзей, якія адкрыта і натуральна карысталіся беларускаю мовай. І гэта выглядала сапраўды інтэлігентна, шляхетна, прыстойна! Як прыгожа, годна загучала беларуская мова ў Вярхоўным Савеце!. А на розных сходах, мітынгах, з'ездах, канфэрэнцыях, сустрэчах! Наша мова нібыта вырвалася з палону, дзе яе трымалі русіфікатары, узнялася на сваіх крылах і залунала ўвышыні, там, дзе яе месца адвеку.

З гэтага часу жыццё маё перамянілася, бо ў ім з'явіўся высокі сэнс – служыць сваёй Радзіме і роднай мове і быць у гэтым разам з лепшымі людзьмі Беларусі.

# Наперадзе чарговы з'езд ТБМ

Паважаныя сябры. 12 кастрычніка ў Менску павінен адбыцца чарговы 8-з'езд нашай арганізацыі, якая зараз разам з замежнымі грамадзянамі налічвае каля 7000 чалавек. На тэрыторыі Беларусі дзейнічаюць 109 рэгіянальных структур ТБМ, прычым 62 з іх пастаўлены на улік у мясцовых органах улады. Менавіта гэтыя 62 арганізацыі і вылучаюць сваіх дэлегатаў на з'езд у адпаведнасці с квотамі, зацверджанымі радай ТБМ. Астатнія могуць прысылаць за свой кошт па аднаму паўнамоцнаму прадстаўніку с правам дарадчага голаса. Таму просім да 1-га кастрычніка вылучыць адпаведную колькасць дэлегатаў і дасылаць у ТБМ выпіскі с пратаколаў паседжанняў радаў альбо сходаў. Узор анкеты дадаецца.

Таксама ўпершыню перад з'ездам мы падаём як мага больш поўную інфармацыю пра нашыя рэгіянальныя структуры (гл. ст. 6 -7).

***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***

ВОБЛАСЦЬ ..........

Анкета

дэлегата VIII з'езда ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" ад

назва арганізацыі

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Прозвішча, імя | |
| 2. | № пасведчання сябра ТБМ і дата выдачы | |
| 3. | Дата нараджэння | |
| 4. | Адукацыя | |
| 5. | Месца працы (вучобы) | |
| 6. | Вучоная ступень (калі ёсць) | |
| 7. | Тэлефон (хатні або службовы) | |
| 8. | Дакладны паштовы адрас дэлегата з індэксам | |
| 9. | № пратакола і дата сходу, на якім вылучаны дэлегат | |
| 10. | Прыкладны кошт праезду ў абодва бакі | |

Подпіс старшыні сходу .............. (..........................)

Дата ..................

# Гарадзенская абласная канферэнцыя ТБМ

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

Канферэнцыя з вялікай заклапочанасцю разгледзела стан спраў у Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ, дзе намінальна засталося ўсяго 156 чалавек, а рэальны актыўных сяброў яшчэ менш. У арганізацыі ў трэці раз за два гады змянілася кіраўніцтва. На апошняй гарадской канферэнцыі старшынём Гарадзенскай гарадской арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" абраны Мікола Маркевіч, які давёў абласной канферэнцыі асноўныя кірункі дзейнасці гарадской арганізацыі так, як ён іх бачыць. Адным з кірункаў гэтай дзейнасці з'яўляецца стварэнне гарадзенскай газеты ТБМ. Для гэтага ў Горадні ёсць усё, няма пакуль згоды ўлады, але менавіта атрыманнем гэтага дазволу і займецца кіраўніцтва гарадской арганізацыі. Следам за Менскам, дзе "Новы час" цвёрда становіцца на ногі, Горадня мусіць мець сваю газету.

Вялікую заклапочанасць выклікаў на канферэнцыі стан справаў з беларускамоўнай адукацыяй. Фактычна эра беларускай школы ў Горадні ізноў, у каторы ўжо раз, заканчваецца. Следам за Горадняй сітуацыя рэзка пагаршаецца ў Лідзе і іншых раённых цэнтрах вобласці. Відавочна, што ўсе дробныя поспехі ТБМ, якія выцякаюць з прынцыпу: кропля камень точыць губляюцца на тле глабальнай русіфікацыі школы на Гарадзеншчыне.

У цэлым, што тычыцца ТБМ, то канферэнцыя дала працы абласной рады станоўчую ацэнку. Старшыня ТБМ Алег Трусаў уручыў старшыні Гарадзенскай абласной арганізацыі "Падзяку", выкананую з выкарыстанне сімволікі ТБМ, надрукаваную на бланку з вывай нашай векавечнай культурнай сталіцы Нясвіжа.

***Яраслаў Грынкевіч, Горадня.***





Таццяна Вабішчэвіч

# АРСЕННЕЎСКАЯ СПАДЧЫНА: УЧОРА І СЁННЯ

На Беларусі 100-годдзе Н. Арсенневай – нарадзілася яна 20 верасня 1903 г. – засталося амаль незаўважаным. Апроч кнігі выбранага, надрукаванай летась "Беларускім кнігазборам", конкурсу маладых літаратараў, зладжанага ПЭН-цэнтрам пад імем паэткі, ды хіба яшчэ каляндарыка з яе партрэтам, выдадзенага ТБМ, ніякіх прыкметных юбілейных падзеяў, бадай, не адбылося.



Наталля Арсеннева ў 1935 г.

Гэткі "зацішак" яскрава засведчыў: хваля цікавасці да беларускай эміграцыйнай літаратуры, характэрная для сярэдзіны 1990-х гадоў, сышла. Узнікшы недзе напрыканцы 1980-х з вельмі стрыманых публікацыяў Б. Сачанкі, у 1993-1996 гг. увага да спадчыны аўтараў - "выгнанцаў" перарасла не проста ў захапленне, а ледзь не ў сапраўдны хваласпеў эміграцыйнай літаратуры: менавіта там, у вольным свеце, былі захаваныя і развітыя найлепшыя традыцыі беларускага пісьменства, дазволіўшы літаратуры дыяспары стаць у авангардзе беларускай слоўнай творчасці (В. Булгакаў). Ды, галоўнае, там, на Захадзе, пеставалася занядбаная на Беларусі нацыянальная ідэя. Газетныя ды часопісныя публікацыі – найчасцей агляднапапулярызатарскага характару – хлынулі лавінаю. Аднак гэткі пал ужо тады ахаладжалі некаторыя эміграцыйныя аўтары (паводле М. Кавыля, напрыклад, "савецкая беларуская літаратура – не мастацкая літаратура, а прапаганда. Тое ж самае можна сказаць і пра эміграцыйную літаратуру. Адрозніваюцца гэтыя літаратуры ідэйнасцю").

У канцы 1990-х гг. грамадскія і навуковыя "хваляванні" вакол беларускай эміграцыйнай літаратуры сцішыліся: тэма болей не прываблівала абсалютнаю навізною. Трэба думаць, на памяншэнне прыцягальнасці ў пэўнай ступені паўплывалі і далёка немастацкія прычыны. "Эмігранцкае пытанне" зноў набыло палітычную афарбоўку. Са школьнай праграмы выключаныя былі творы Л. Геніюш, М. Сяднёва, Н. Арсенневай, што прыкметна паслабіла актыўнасць у вывучэнні эміграцыйнай спадчыны з боку акадэмічных колаў (хаця па гарачых сьладах у 1999-2001 гг. і былі выдадзеныя яшчэ колькі манаграфіяў). Астыла ўвага да эмігрантаў і ў "незалежных" інтэлектуалаў. Пасля больш уважлівага прачытання стала зразумелым, што літаратары замежжа, на жаль, не цалкам апраўдалі ўскладзеныя на іх надзеі па выратаванні беларускай літаратуры ад маламастацкасці ды нізкапрафесійнасці. Вырак, вынесены ўрэшце рэшт эміграцыйнай літаратуры, аказаўся жорсткім: яна пашырыла абсягі беларускага мастацкага слова толькі ў колькасным, але не ў якасным плане (В. Акудовіч). "Шлях да ўзвышэння да Эўропы", пра які пісаў яшчэ ў сярэдзіне XX ст. Антон Адамовіч – славуты эміграцыйны крытык, пісьменнікі беларускага замежжа так і не адолелі.

На гэткім тле досыць пасіўнае святкаванне 100-годдзя Наталлі Арсенневай выглядае не дзіўным. Аднак зусім не ў пышнасці ды масавасці справа. Юбілейная дата ёсць перш за ўсё добраю нагодаю, каб яшчэ раз перагледзець творы паэткі. Падаецца, у сучаснай літаратуранай сітуацыі такое "перачытванне" неабходнае. Яно мусіць не толькі расставіць акцэнты ў існых літаратурна-крытычных ацэнках творчасці Н. Арсенневай, але, магчыма, і даць ключы для разумення тых працэсаў, што адбываліся ў беларускай літаратуры цягам XX ст., а таксама маюць месца сёння.

Балазе, менавіта Арсенеўская спадчына пры пільным углядзе дазваляе ўзняць ці не найістотнейшае ў літаратурна-эстэтычным і нацыянальна-культурным плане пытанне.

Ужо першыя крытыкі маладой паэткі, у прыватнасці, А. Навіна (А. Лупкевіч), беспамылкова заўважылі, што Арсеннева пайшла кірункам, распачатым у беларускай літаратуры М. Багдановічам, - шляхам т.зв. эстэтызму. І якія б прэтэнзіі не вылучаліся ў савецкія часы дый сёння да выразаў кшталту "мастацтва дзеля мастацтва", "эстэтства" ды "апяванне" "чыстае красы" (апошні, дарэчы, ляжыць у іншай сэнсавай плашчыні, чым першыя з названых), відавочным застаецца адно: менавіта эстэтызм (карыстаючыся тэрмінам А. Навіны) даў беларускай літаратуры найбольш высокаўзроўневыя, асабліва ў тэхнічным плане, творы.

Прадстаўнікі эстэтызму ў адрозненне ад паэтаў "з волі Божай", чыя творчасць была "несвядомым" выяўленнем "душы народа", у якасці прыярытэту вызначылі свядомую, рацыянальную працу над паэтычнай формай, абавязковую "індывідуалізаванасць" творчасці ды першаснасць эстэтычнага перад утылітарным. І калі зірнуць на гісторыю беларускай літаратуры XX ст. (як у метраполіі, так і ў замежжы), у вочы кідаецца наяўнасць заўсёднага канфлікту паміж "ўтылітарнасцю" ды "эстэтыкай". Ці не з-за браку "чыстае красы" нашая літаратура вытрымлівае далёка небеспадстаўныя абвінавачванні ў "правінцыйнасці" ды іншых падобных хібах? Прычым пытанне эстэтыкі і ўтылітарнасці ў сваім мадыфікаваным выглядзе актуальна гучыць і ў дачыненні да найноўшай беларускай літаратуры.

Наталля Арсеннева ў гэтых адносінах – прыклад надзвычай цікавы. Яна, пэўна, апошняя з невялікай кагорты беларускіх паэтаў, хто стала наследаваў Багдановічаваму эстэтызму. Большасць творцаў гэтага кірунку (яшчэ адзін яскравы прадстаўнік яго, напрыклад, У. Жылка) памерлі або сышлі з паэтычнае арэны ў 1930-1950 гг. Арсеннева ж трымалася творчай канцэпцыі Багдановіча і мастацкіх прынцыпаў "Узвышша" (пераемства з якімі на эміграцыі дэкларавала "Шыпшына") на працягу ўсяго свайго творчага жыцця. Нават у бурлівыя, вольныя на пошук 1990-я гг., калі на Беларусі пачаліся значныя змены ў тэматыцы і формавай структуры верша, састарэлая паэтка пісала зусім мала, але ў адзіным магчымым для яе рэчышчы – рэчышчы эстэтызму. Таму Арсеннева – паэт-класік, апошняя прадстаўніца "класічнай" школы беларускага верша.

Пры ўсёй сваёй "традыцыйнасці", паэтка істотна розніцца ад прызнаных класікаў "падсавецкай" беларускай паэзіі. Выкшталцонасць, арыстакратычнасць, вытрыманасць і надзвычайная суб'ектывавананасць пісьма – вось вызначальныя рысы яе лірыкі. Прычым характэрна гэта для ўсіх этапаў арсеннеўскай творчасці – пачынаючы ад першага, яшчэ відавочна вучнёўскага зборніка "Пад сінім небам" (Вільня, 1927), і сканчаючы вершамі "на выпадак" (дзе найцяжэй быць паэтам) канца 1980-1990-х кадоў. Арсеннева знайшла сваю ноту, сваю, толькі для яе "родную" тэму – "смутак невыслоўны": **"Гоман, рух і вуліцы й натоўпы //*усё ўва мне.* Іх жаль ці радасць – *я сама*".**

І ў гэтай тэме аўтарка сапраўды мела, што сказаць. Арсеннева не пісала, "абы пісаць". Нездарма ў яе біяграфіі ёсць некалькі даволі працяглых "мёртвых" перыядаў: *"Перажываньні, цяжкасьці (…) даюць чалавеку нешта такое, што пабуджае ў ім натхненьне, творчую сілу. (…) Перажываньні для паэта – гэта той жа хлеб. У галодныя гады ён дае зь сябе менш, у гады, багатыя на ўражаньні, ён творыць больш",* - зазначана ў арсеннеўскіх успамінах. Творы для Арсенневай заўсёды былі сродкам выказацца ("выпісацца", калі ўжываць яе ўласную фармулёўку) з грэнічнаю адкрытасцю: на ўсе падзеі свету аўтарка глядзіць праз "сваё", праз асабістае, праз адчутае, ствараючы "герметычную прастору" вершаў. Магчыма, гэткі падыход вызваліў паэтычную спадчыну, хаця і не на сто працэнтаў, як ад заштампаванасці ды надуманасці вобразаў, так і ад "вечнага плачу".

"Класічнасць" і "традыцыйнасць" Арсенневай – арганічныя, прыродныя – вельмі беларускія. Паэтцы не ўласцівыя эксперыментальнасць і гульня са словам – і яна не спрабуе займацца імі, чужыя экзальтаванасць і рафінаванасць, гэтак частыя ў сусветнай "жаночай" паэзіі, - і Арсеннева без жалю адкідае іх. У лірыцы паэткі хапае і наіўных "ветрыкаў", "расінак" ды "лясочкаў", і палымяных воклічаў ды выклічнікаў ("О, Беларусь!.." і г.д.), але надрыўнага патасу, ад якога далёка пытыхае штучнасцю, - нават у нацыянальна-патрыятычных гімнах, пісаных па замове – няма. Менавіта гэткай натуральнасці беларускага і беларускай натуральнасці часта бракуе нашай "падсавецкай" паэзіі ды найноўшым пошукам маладых аўтараў. Пра "класічнасць" у тым сэнсе, які стасуецца да творчасці Арсенневай, казаць у дачыненні да ўчарашняй і тым болей да сённяшняй беларускай паэзіі не выпадае.

Смерць Н. Арсенневай у 1997 годзе пазначыла, фактычна, канец класічнай эпохі ў нацыянальнай літаратуры. Прычым менавіта канец, бо "новая літаратурная сітуацыя" зарадзілася глыбока ў нетрах папярэдняга перыяду – яшчэ ў сярэдзіне 1980-х гадоў.

У тых культурнагістарычных варунках, што склаліся на Беларусі сёння, класічны тып пісьма ўжо неэфектыўны. На сучаснае вока ён выглядае тэхнічна-якасным, але архаічным.

З 1997 г., ад часу, калі спала адраджэнская хваля і – супадзенне – калі памерла стваральніца "Малітвы", патрэба ў абнаўленні літаратуры паўстала як аб'ектыўная ды ўжо ўсвядомленая новым пакаленнем паэтаў неабходнасць. Словамі Н. Арсенневай:

***"Рака, рака жыцця"...***
***бурлі ж павек між***
***берагамі ты,***
***і ў грудзі – ўжо не мне -***
***а змене бі па змене!".***



Наталля Арсеннева ў Вінцэнта і Раісы Жук-Грышкевічаў у Бэры (Канада), 1973 г.

# Год знакавых юбілеяў

Сёння застаецца ўжо няшмат людзей, якія не хочуць прызнаць, што беларусы – народ з багатай, адметнай ад суседзяў гісторыяй, маюць салідны досвед незалежнага палітычнага развіцця. А зусім жа нядаўна нават самыя вялікія аўтарытэты ў галіне грамадазнаўчых навук заяўлялі: беларусы ўпершыню сталі дзяржаўным народам пасля кастрычніцкага перавароту 1917 года ў Расіі.

Што наша гісторыя не бедная на адмысловыя і знакавыя падзеі пераканаўча сведчыць і 2003 год. Ужо прайшоў шэраг мерапрыемстваў па святкаванні 450-годдзя Рэфарацыі на Беларусі і 100-годдзя заснавання ў нас нацыянальнай партыі леванародніцкага кірунку – Беларускай Сацыялістычнай Грамады (БСГ). Аргкамітэт па святкаванні 450-годдзя Рэфармацыі ўзначальвае добра вядомы навуковец Анатоль Грыцкевіч, 100-годдзя БСГ – няўрымслівы адраджэнец, адзіны на сёння ўладальнік прыватнага мастацкага музея Анатоль Белы.

Было б цалкам апраўданым, каб у правядзенні многіх звязаных з гэтымі юбілеямі мерапрыемстваў самы непасрэдны ўдзел брала і дзяржава, бо як Рэфармацыя так і БСГ пакінулі адметны след ва ўсім нашым жыцці, а не ў якой-небудзь адной вузкай сферы.

Рэфармацыя як адзін з самых шырокіх у Еўропе прагрэсіўных сацыяльна-палітычных і ідэялагічных рухаў ХУІ ст. адыграла выключна важную ролю ў распаўсюджванні перадавых ідэй гуманізму эпохі Адраджэння (Рэнесансу). Ідэолагі яе смела і рашуча выступалі супроць празмернага ўплыву, шырокага ўмяшання рымска-каталіцкай царквы ў свецкае, палітычнае жыццё з мэтай паставіць яго пад сваю залежнасць. Не падзяляла Рэфармацыя і імкнення каталіцызму скрозь усталёўваць лацінскі лад у набажэнстве і таму абвясціла сябе шчырай прыхільніцай нацыянальных цэркваў, у якіх служба, казанні праводзіліся б на мясцовых мовах. Ці ж не датычыць гэта сённяшняй беларускай рэчаіснасці?

Перадавыя ідэі Рэфармацыі знайшлі сабе шмат гарачых прыхільнікаў і на Беларусі. І гэта зразумела. Рымска-каталіцкая царква, якая ўпэўненна набірала моц пасля падпісання ў 1385 годзе Крэўскай Уніі, навочна паказала, што ў нашым краі яна не зусім збіраецца лічыцца з яго этнакультурным інтарэсам. Дзе толькі ўдавалася гэтай канфесіі запусціць карані, яна настойліва прывучала сваіх вернікаў жыць паводле лацінскіх традыцый, не лічылася з беларускай самабытнасцю. Не задавальняла перадавыя колы грамадства і ўпартае імкненне праваслаўнай царквы Рускай дзяржавы распаўсюдзіць свой уплыў на славянскае насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага ўсходняга абраду, г.зн. на тэрыторыі сучаснай Беларусі. У нястрымным жаданні як мага хутчэй дасягнуць гэтых непрыхаваных экспансіяністкіх планаў, высокія духоўнія асобы праваслаўнага духавенства Рускай дзяржавы ўсяляк схілялі яе свецкія ўлады да заваявання ўсходніх тэрыторый ВКЛ. І такія вялікія захопніцкія паходы не раз арганізоўваліся, што мела вынікам не толькі страшэнныя эканамічныя разбурэнні, але і вялікія чалавечыя ахвяры сярод насельніцтва.

Адсюль становіцца зразумелым, чаму прагрэсіўныя ідэі Рэфармацыі аказаліся такімі папулярнымі ў нашым краі. Пранікаць сюды яны пачалі яшчэ ў сярэдзіне ХУІ ст. Іх прапаведвалі, укаранялі тут у жыццё такія славутыя беларускія гуманісты, асветнікі, як Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Ян Ліцыні Намыслоўскі, Андрэй Волан (Волян) і інш. Галоўным пратэктарам Рэфармацыі стаў адзін з прадстаўнікоў самага багатага і ўплывовага на Беларусі княжацкага роду Радзівілаў – Мікалай Радзівіл Чорны.

У духу Рэфармацыі сталі адбывацца карэнныя змены ў царкоўна-рэлігійным жыцці. На базе рэарганізацыі праваслаўных цэркваў і каталіцкіх касцёлаў і ў нас у дабраахвотным парадку ствараецца і пачынае дзейнічаць трэцяя хрысціянская канфесія – пратэстантызм, пераважна ў форме кальвінізму, лютэранства і арыянства. Акрамя Радзівілаў, сваё жаданне далучыцца да новай хрысціянскай плыні выказалі дзесяткі самых вядомых праваслаўных родаў: Сапегі, Валовічы, Храптовічы, Сангушкі, Скуміны, Чартарыйскія, Астрожскія, за якімі ахвотна пайшло залежнае ад іх вясковае насельніцтва. Ідэю пратэстанцкай царквы актыўна падтрымалі многія прадстаўнікі шчыра адданай свайму народу інтэлігенцыі, бо справядліва бачылі ў ёй надзейны сродак пабудовы рэлігійнага жыцця не на чужой, а прыроднай беларускай нацыянальна-культурнай аснове, якую так істотна падрываў лацінскі абрад каталіцызму польскага ўзору. Здавалася і Беларусі ўсміхнулася шчасце стварыць па-сапраўднаму нацыянальную царкву, як гэта было характэрна абсалютнай большасці еўрапейскіх краін. Гэтым светлым надзеям прагрэсіўнай часткі беларускага грамадства не дала да канца здзейсніцца занесеная езуітамі ў наш край Контррэфармацыя. Яна аказалася толькі не ў стане забіць самую сутнасць Рэфармацыі: зрабіць царкву больш блізкай да народа і цалкам адпаведнай яго карэнным нацыянальным інтарэсам. Гэта з'яўляецца найвышэйшым ідэалам і для сучасных прагрэсіўна настроеных колаў духавенства ўсіх хрысціянскіх канфесій. Хочацца спадзявацца, што святкаванне 450-годдзя Рэфармацыі на Беларусі добра паспрыяе глыбокаму і ўсебаковаму абмеркаванню праблемы арганізацыі і ў нас царкоўна-рэлігійнага жыцця ў духу беларускіх нацыянальна-культурных традыцый.

Святкаванне 450-годдзя Рэфармацыі не з'яўляецца перашкодай належным чынам адзначыць другую знамянальную дату ў нашай нацыянальнай гісторыі – 100 годдзе Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Працэс яе канчатковага афармлення завяршыўся ў 1903 годзе. Ля вытокаў гэтай славутай сваімі здзяйсненнямі партыі стаялі такія знакавыя фігуры, як браты Іван і Антон Луцкевічы, Алаіза Пашкевіч (літ. псеўданім Цётка), Казімір Кастравіцкі (літ. псеўданім Кастусь Каганец), Алесь Бурбіс, Вацлаў Іваноўскі, Франц Умястоўскі і інш. Сорамна прызнаць, але ў нас на афіцыйным узроўні прынята з павагай гаварыць, ушаноўваць памяць у назвах вуліц ці праз яшчэ якія-небудзь іншыя сродкі толькі Цёткі і Каруся Каганца. Усіх жа астатніх уладныя структуры прызнаюць, калі не за беларускіх буржуазных нацыяналістаў, дык за звычайных шараговых людзей, якія нібыта не пакінулі ніякага адметнага следу ў лёсе Бацькаўшчыны. Усё гэта вельмі далёка ад рэчаіснасці. БСГ – гэта сапраўдны змагар за беларускую ідэю. Страшна нават падумаць: сто гадоў таму ідэолагі і актывісты імкнуліся праводзіць у жыццё такія ж планы, якія хвалююць, над якім прагрэсіўная частка беларускага грамадства б'ецца і ў нашыя дні. Вось дык адстаянне, таптанне на месцы!!! Каб паказаць, што сучасныя палітыкі не выйшлі наперад за Грамаду ў поглядах на самую галоўную для нас праблему, прывяду толькі адну вытрымку з "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (1993, т.1): "У прынятай на 2-ім з'ездзе ў студзені 1906 г. праграме яна "выказалася за ўтварэнне Расійскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі з свабодным самавызначэннем і культурна-нацыянальнай аўтаноміяй народнасцей. Для Беларусі яна патрабавала аўтаноміі з мясцовым сеймам у Вільні" (стар. 410). Не будзем забывацца, што пісалася такое ва ўмовах жорсткага царскага дэспатызму, які так рашуча выступаў за адзіную, непадзельную Расію. Сёння ў нас зусім іншыя часы. Беларусь – суверэнная дзяржава, але яе гора – палітыкі не стамляюцца заяўляць пра мэтазгоднасць, гістарычную важнасць стварэння з Расіяй адзінай саюзнай дзяржавы, не маючы цвёрдага ўяўлення, якое месца ў яе палітычнай сістэме будзе займаць Беларусь. Не вядзецца і гаворкі пра нацыянальную культурную аўтаномію ў гэтым агульнасаюзным утварэнні. І гэта зразумела, бо такой аўтаноміі наш народ не мае нават і ў Рэспубліцы Беларусь. Уладныя структуры свядома забяспечваюць тут неабмежаваную прастору толькі для панавання рускага фактару ў культурна-моўным жыцці. Міне з дзясятак гадоў ад другога з'езда БСГ, і яна ўжо будзе выступаць за стварэнне поўнасцю палітычна незалежнай ад Расіі беларускай дзяржавы. Стаць на такую адзіна правільную, прагрэсіўную пазіцыю не перашкодзілі нават страшэнныя бедствы, што абрынуліся на Беларусь у выніку ператварэння яе ў плацдарм ваенных дзеянняў расійскіх і нямецкіх армій падчас Першай сусветнай вайны.

Не выйшлі сучасныя палітыкі на ўзровень БСГ у разуменні такой выключна важнай для нас праблемы, як нацыянальная сістэма народнай адукацыі. Грамадоўцы справядліва бачылі ў ёй галоўны інструмент выратавання ад русіфікацыі і іх нацыянальна – культурнага адраджэння. Улады Рэспублікі Беларусь не ставяць перад сабой падобных задач, хаця іншым разам зусім неправамерна і карыстаюцца тэрмінам "нацыянальная сістэма адукацыі". Хацелася б ім давесці, што стварыць яе ў Беларусі на рускай культурна-моўнай аснове, якая бесканкурэнтна выкарыстоўваецца ў нас ва ўсіх тыпах навучальных устаноў, не змаглі б сотні такіх сусветна вядомых педагогаў, як чэх Ян Амос Каменскі, швейцарац Іаган Песталоці, немец Фрыдрых Дзістэрвег, рускі Канстанцін Ушынскі, італьянка Марыя Мантэсоры.

Зусім няма аніякай надзеі, што ўжо ў бліжэйшы час палітычны рэжым, грамадскасць Рэспублікі Беларусь створаць нешта раўназначнае перыядычнаму органу БСГ газеце "Наша Ніва". Не перабольшу: мільёнам беларусам яна дапамагала глянуць на сябе, як на самабытны народ, навучыла як след шанаваць родную культуру і мову, усяліла ў галовы людзей ідэю аб неабходнасці ўсяляк сцерагчы, узбагачаць сваю этнакультурную адметнасць, каб не растварыцца найперш сярод сваіх суседзяў. Сучасны афіцыйны друк свядома ігнаруе гэтыя каштоўнасці, затое занадта ўжо любіць гаварыць пра ўсходнеславянскую супольнасць, як пра адзін рускі народ, прысутнасць у якой украінцаў і беларусаў тлумачыць хібамі, недакладнасцямі гістарычнай навукі. Не ў прыклад "Нашай Ніве" беларускамоўныя матэрыялы з'яўляюцца непапулярнымі і для многіх неафіцыйных газет і часопісаў.

Прагрэсіўная пазіцыя БСГ у пытаннях нацыянальна-палітычнага, сацыяльна-дэмакратычнага і культурнага жыцця, настойлівасць у развязванні ўсіх лёсавызначальных для народа праблем здабяспечылі ёй не толькі высокі аўтарытэт, але і прыцягнулі ў яе шэрагі вялікую колькасць людзей самых розных узростаў і прафесій, у тым ліку рабочых і студэнтаў. А гэта ж менавіта тыя катэгорыі, якіх так сёння не стае ў нашым грамадска-палітычным, нацыянальна-культурным руху. Дзеячам БСГ мы абавязаны тым, што на нашай зямлі ў 1918 годзе зноў была адроджана ўласная дзяржаўнасць у форме Беларускай Народнай Рэспублікі, а 1 студзеня 1919 года абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, у гісторыі якой, акрамя шмат чаго жахлівага, быў і такі шчаслівы перыяд, як беларусізацыя. Прыклалі яны руку і да разгортвання шырокага нацыянальна-вызваленчага, культурна-асветніцкага руху ў міжваеннай Заходняй Беларусі, карэннае насельніцтва якой у тыя гады ў чарговы раз трапіла пад нож паланізацыі.

Гэта толькі мізэр таго, што зрабіла БСГ для выратавання беларускага народа ад канчатковай дэнацыяналізацыі. Але і сказанага дастаткова, каб 2003 год чынна прайшоў у нас пад знакам 100-гадовага юбілею Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Яна цалкам заслугоўвае таго, каб гэтую падзею разглядаць за агульнанацыянальную, правесці на самай шырокай грамадска-дзяржаўнай аснове.

Не сумняваюся, сёлета мы не пройдзем міма і такой важнай падзеі, як 60-годдзе вызвалення ў апошнія месяцы 1943 года, ўсходніх раёнаў Беларусі ад нямецкіх захопнікаў.

Самым жа юным юбілеем было 10-годдзе правядзення 8-10 ліпеня 1993 года ў Менску Першага з'езду беларусаў свету. Маладосць гэтай падзеі ніколькі не зніжае яе агульнанароднай значнасці. У цяжкі і адказны для Бацькаўшчыны час яе пакідаюць у пашуку "райскага жыцця" на зямлі ці не самыя лепшыя людзі. Узгадаваныя ў адрыве ад прыродных культурна-моўных традыцый, а таму і пазбаўленыя здаровай нацыянальнай самасвядомасці, яны на чужыне адразу ж стануць жаданай спажыўнай этнічнай масай для колькаснага павелічэння іншых народаў.

Вось толькі ніхто з нацыянальна-самасвядомых людзей не падумаў 26 жніўня 2003 года адзначыць 70-годдзе прыняцця Саветам народных камісараў БССР пастановы "Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу". І не адзначалі таму, што навязаная нам таталітарным палітычным рэжымам рэформа правапісу беларускай мовы штучна наблізіла яе да рускай мовы, зрабіла крайне няўстойлівай ад русіфікацыі. Аднак гэта змрочная старонка ў айчыннай гісторыі можа паслужыць важнай падставай, каб яшчэ раз вярнуцца да грунтоўнага абмеркавання шляхоў паступовага, узважанага вызвалення беларускай мовы ад усяго таго парэформенага, што пярэчыць, не стыкуецца з яе прыродай.

Асобай гаворкі патрабуе 200-годдзе ад часу заснавання Віленскага універсітэта. З ласкі "бацькі народаў" Іосіфа Сталіна беларускую этнічную тэрыторыю –Віленшчыну – у кастрычніку 1939 года перадалі Літве. Сёння Віленскі універсітэт – гэта гонар Рэспублікі Літва. Але ў год яго нараджэння (1803) Вільня была пераважна горадам польскай, а таксама беларускай і яўрэйскай культур.

Першым на пасаду рэктара заступіў ураджэнец Крамянецкага павету Украіны Іерамія Страйкоўскі: другім – Ян Снядэцкі з Гнезненскага павету Польшчы. З цягам часу сярод прафесарска-выкладчыцкага складу, студэнтаў універсітэта з'явілася шмат асобаў беларускага паходжання. Прафесары гэтай навучальнай установы, ураджэнцы Бельскага павету (зараз Польшча) Міхал Баброўскі і Ігнат Данісовіч першымі прыступілі і ўнеслі неацэнны ўклад у распрацоўку беларускай нацыянальнай ідэі. На беларускую справу плённа працавалі створаныя тут тайныя студэнцкія таварыствы філаматаў і філарэтаў. Віленскі універсітэт па праву прынята лічыць калыскай будучых ідэолагаў, арганізатараў і ўдзельнікаў нацыянальна-вызвольнага паўстання 1830-1831 гадоў, якое пазітыўна адбілася на росце папулярнасці ідэі палітычнай незалежнасці, чым сёння не могуць пахваліцца і многія нават самага высокага рангу дзяржаўныя дзеячы краіны. Зачынены ў 1832 годзе расійскім імператарам Мікалаем І Віленскі універсітэт аднавіў свой дзейнасць у 1919 годзе і быў да яго ліквідацыі ў снежні 1939 года ў поўным значэнні слова польскай вышэйшай навучальнай установай. Аднак і ў гэтыя гады не паміраў тут дух беларушчыны, што не дае нам права не адзначыць 200-годдзе арганізацыі Віленскага універсітэта, не выкарыстаць гэтую нагоду і для сур'ёзнай, гаворкі пра стварэнне нарэшце і на нашай зямлі сапраўднага Беларускага Нацыянальнага Універсітэта.

Як бачым, сёлетні год абавязвае нас да актыўнай ідэалагічнай, культурна-асветніцкай дзейнасці, без якой немагчыма нават і кроку зрабіць наперад у нацыянальным адраджэнні. Дзеля дасягнення гэтай запаветнай мэты спаўна выкарыстаем прагрэсіўныя ідэі Рэфармацыі, хоць крыху наблізімся да практычнага здзяйснення задуманага і распачатага 100 гадоў таму назад Беларускай Сацыялістычнай Грамадой.

***Леанід Лыч,***
***доктар гістарычных навук, прафесар.***





## 440 гадоў назад (1563) выйшаў у свет помнік кніжнай культуры – Берасцейская (Радзівілаўская) Біблія, аздобленая высокамастацкімі ілюстрацыямі

"Зроблена ў Берасці року 1563 месяца верасня чацвёртага дня..."

Так заканчваецца фаліянт, надрукаваны на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага – шэдэўр брэсцкай друкарні, самая вялікая і найбагацей аздобленая з беларускіх друкаваных кніг XYI стагоддзя. Тыя экзэмпляры Берасцейскай, або Радзівілаўскай, Бібліі, што захаваліся, расказваюць і пра кніжную культуру свайго часу, і пра няспынную грамадскую барацьбу.



**Мікалай Радзівіл Чорны**

Берасцейская друкарня вядомая з 1558 года. Выпускала дробныя брашуры пратэстанцкага зместу, прамовы на шлюб і на пахаванне членаў роду Радзівілаў. І раптам з-пад яе прэсаў выйшлі адной кнігай усе біблейскія тэксты Старога і Новага запаветаў. З падрабязным зместам, прадмовай, прысвячэннем каралю і вялікаму князю літоўскаму Жыгімонту Аўгусту, алфавітным паказальнікам рэчаў і цудоўнымі ілюстрацыямі на першых ста старонках. Невядомы гравёр глядзеў на падзеі біблейскай гісторыі вачыма чалавека XYI стагоддзя – пра гэта сведчаць вопратка, рэчы, постаці персанажаў, узятыя з побыту сярэдневяковых гараджан. Асабліва экспрэсіўная гравюра "Патоп". Аўтар паказвае апошнія хвіліны сусветнай катастрофы.

Адразу пасля смерці Мікалая Радзівіла Чорнага сын яго, Мікалай Радзівіл Сіротка, перавёз усю маёмасць берасцейскай друкарні ў Вільню і перадаў Віленскай акадэміі. Будучы заўзятым каталікам, ён загадаў збіраць пратэстанцкія берасцейскія выданні свайго бацькі і паліў іх на двары Нясвіжскага замка. У полымі тых вогнішчаў загінула большая частка накладу Берасцейскай, або Радзівілаўскай, Бібліі 1563 г. – выдатнага помніка кнігадрукарства і мастацтва кнігі.

*Мікола Нікалаеў.*

Беларуская мова-



ТБМ

наша будучыня

### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Марыя Сафро, Масква – 5000 руб.
2. Надзея Барт–Юрэвіч, Германія – 50 еўра.
3. Петрукові Васіль – 10 000 р.
4. Ткачова Валенціна, г. Ваўкавыск - 2000 руб.
5. Інжынер Ю. Ф., г. Менск – 100000 руб.
6. Зміцер Левін, ЗША - 22 дол.
7. Сергей Гурло, г. Бабруйск – 5000 руб.
8. Шкірманкоў Фелікс, г. Слаўгарад – 5000 руб.
9. Надзея Барт–Юрэвіч, Германія – 115000 руб.

Таварыства беларускай мовы рыхтуецца да чарговага УIII з'езду. Падрыхтоўка і правядзенне з'езду патрабуе значных выдаткаў. Просім сяброў ТБМ па меры магчымасці падтрымаць арганізацыю

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**

атрымальнік плацяжу

**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**

назва банка

Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня

Разам

**Касір**

Плацельшчык

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**

атрымальнік плацяжу

**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**

назва банка

Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні | на дзейнасць | | | |
| ТБМ | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня

Разам

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

Плацельшчык

# Дзень закрытых газет




**Стэнд газеты "Пагоня" на фестывалі**

19 верасня Беларуская асацыяцыя журналістаў ладзіла чарговы фестываль дэмакратычнай прэсы пад назвай "Дзень закрытых газет". Як і выцякае з назвы, значная ўвага на фестывалі ўдзялялася газетам, якія падпалі пад рэпрэсіі, былі закрытыя, атрымалі папярэджанні. Іх у Беларусі ўжо не адзін дзесятак.

Фестываль меў міжнародны характар. Прысутнічалі прадстаўнікі амбасадаў еўрапейскіх краінаў, прадстаўнікі міжнароднай арганізацыі "Артыкул-19", Украінскага інстытута СМІ, Расейскага цэнтра экстрэмальнай журналістыкі. Рэфрэнам фестывалю гучалі перафразаваныя шэкспіраўскія радкі: "Няма аповесці самотнейшай на свеце, чым аповесць аб невыйшаўшай газеце".



**Кіраўнік Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна і рэдактар "Народнай волі" Іосіф Сярэдзіч**

Фестываль меў на мэце пацвердзіць узаемную салідарнасць беларускіх журналістаў, а таксама іх падтрымку з боку міжнароднай дэмакратычнай грамадскасці.

Гэтую падтрымку мусіла прадэманстраваць і ўручэнне на фестывалі прэміі 1-га канала расейскага тэ-лебачання імя апаратара ГРТ, беларуса Зміцера Завадскага. Сёлета прэмію атрымалі заснавальнік і выдавец "Белорусской деловой газеты" Пётр Марцаў і фотакарэспандэнты гэтай г-зеты. Уручаць прэмію з Масквы прыехаў кіраўнік аддзела сацыяльных праектаў 1-га канала Павел Шарамет. Прывітальныя адрасы да прэміі былі падпісаны Канстанцінам Эрнстам. У зале прысутнічалі маці, жонка і сын Зміцера Завадскага.



**У зале адзін з самых "сядзячых" журналістаў карэспандэнт "Народнай волі" Валеры Шчукін**

Прадстаўніцтва беларускіх СМІ на фестывалі было даволі шырокая. Прыехалі прадстаўнікі большасці рэгіянальных дэмакратычных газет. Але нельга сказаць пра ўзняты настрой удзельнікаў. Сёння на Беларусі, што ні газета, то невымерная колькасць праблемаў: адміністрацыйны ціск, праверкі, забароны на падпіску і размяшчэнне рэкламы для дзяржаўных установаў, праблемы з друкам і распаўсюджаннем, банальная адсутнасць сродкаў і рэальная пагроза аказацца сярод закрытых.

Праўда настрой спрабавалі падняць Лявон Вольскі з Пітам Паўлавым ды Зміцер Бартосік, які акрамя іншага выканаў "Песню нячэсных журналістаў". І можна ўжо канстатаваць: фестываль прайшоў, а ўсе праблемы засталіся, магчыма толькі шмат хто пачаў усведамляць іх яшчэ вастрэй.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# Тэхнічныя параметры ГА “ТБМ імя Францішка Скарыны”

**Берасцейская абласная арганізацыя**

*По стану на 01.09. налічвае 515 сяброў*
*(Курсівам пазначаны арганізацыі, якія стаяць на ўліку ў органах улады)*
*Дэлегатаў на з’езд: 8*

| № п/п | Назва арганізацыі (суполкі) | Старшыня і яго тэлефон | К-сць пасв. | К-сць сяброў | Складкі за 2002 г. | Складкі за 2003 г. | Пад-ка на НС | К-сць дэлег. на з’езд |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Столінская раённая арганізацыя | Вабішчэвіч Віктар Васільевіч х.( 01655) 52-9-38 | 1 | **78** | - | - | 2 | |
| 2. | Берасцейская раённая суполка | Пагарэльскі Ягор Мікалаевіч т. х. (01622) 97-72-97 | - | **3** | - | - | - | |
| 3. | Бярозаўская раённая арганізацыя | Русецкі Сяргей Іосіфавіч т. (8-01643) сл. 4-63-13 | 7 | **18** | + | - | 7 | |
| *4.* | *Берасцейская гарадская арганізацыя* | *Новік Марыя Іванаўна т. 26-46-26, с. 26-46-59, 26-46-21* | *7* | ***107*** | - | - | *24* | *2* |
| 5. | Драгічанскія суполкі (Брашэвіцкая) | Гранік Сяргей Уладзіміравіч | - | **3** | - | - | 1 | засн. ў 2003г. |
| *6.* | *Пружанская раённая арганізацыя* | *Здановіч Іван Юльянавіч т. (01632) 2-23-23* | *7* | ***74*** | + | + | *4* | *2* |
| 7. | Івацэвіцкая раённая арганізацыя | Конюх Віктар Лявонавіч | 13 | **37** | - | - | 4 | |
| 8. | Кобрынскія суполкі | Дрык Ніна Сцяпанаўна, т. (01642) 49-208 | 1 | **52** | - | - | 1 | |
| *9.* | *Пінская гарадская арганізацыя* | *Мацкевіч Васіль Васільевіч* | *9* | ***18*** | + | + | *13* | *1* |
| *10.* | *Баранавіцкая гарадская арганізацыя* | *Сырыца Віктар Антонавіч т. х.(8-016-34) 41-65-65,* | *17* | ***83*** | - | - | *21* | *2* |
| *11.* | *Пінская раённая арганізацыя* | *Гук Уладзімір Пятровіч т. 30-98-87, 38-26-64* | *20* | ***42*** | - | - | - | *1* |

**Віцебская абласная арганізацыя**

*По стану на 01.09.2003 г. налічвае **808** сяброў.*
*(Курсівам пазначаны арганізацыі, якія стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады)*
*Клолькасць дэлегатаў на 8 з’езд: 17*

| № п/п | Назва арганізацыі (суполкі) | Старшыня і яго тэлефон | К-сць пасв. | К-сць сяброў | Складкі за 2002 г. | Складкі за 2003 г. | Пад-ка на “НС” | К-сць дэлег. на з’езд |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *1.* | *Аршанская гарадская арганізацыя* | *Нагорны Юрый Аляксандравіч (8-02161) х.5-26-93* | *3* | ***17*** | - | - | *4* | *1* |
| *2.* | *Віцебская гарадская арганізацыя* | *Арлоў Валянцін Мікалаевіч(0212) 25-95-47* | *17* | ***89*** | - | - | *21* | *2* |
| 3. | Віцебская раённая арганізацыя | Фенчанка Аляксей Мікалаевіч(8-0212) 22-40-49 | 2 | **44** | + | - | 2 | |
| *4.* | *Верхнядзвінская раённая арганізацыя* | *Бубала Антон Францавіч(8-02151) х. 21-229* | *1* | ***5*** | + | - | *8* | *1* |
| *5.* | *Ушацкая раённая арганізацыя* | *Варатынская Галіна Аляксандраўна(8-02158) х. 21-152* | *1* | ***15*** | - | - | *2* | *1* |
| 6. | Коханаўская суполка (Талачынскі р-н) | Давыдчук Сяргей Пятровіч | 3 | **13** | - | - | 1 | |
| 7. | Сенніцкая суполка | Лазюк Аляксандр(2135) 2-12-57 | | **15** | - | - | - | |
| 8. | Амбрасавіцкая суполка (Шумілінскі р-н) | Курчанава Ларыса Вітальеўна(02130) 2-73-84 | | **4** | - | - | 2 | |
| *9.* | *Шаркаўшчынская раённая арганізацыя* | *Райчонак Ада Эльеўна (02130) 2-73-84* | *17* | ***21*** | + | - | *1* | *1* |
| 10. | Расонская суполка (у Забóрскай школе-садзе) | Герасімава Тамара Генадзеўна (8-02159) с.2-57-61, 2-57-68 | | **11** | | | 1 | |
| *11.* | *Полацкая раённая арганізацыя* | *Качаргіна-Хацкевіч Людміла Аляксееўна (02144) х. 99-635* | *4* | ***94*** | + | - | *?* | *2* |
| *12.* | *Полацкая гарадская арганізацыя* | *Гарэлікава Тамара Пятроўна (8-0214) х.44-36-28,* | *31* | ***187*** | - | - | *31* | *3* |
| *13.* | *Пастаўская раённая арганізацыя* | *Гіль Міхаіл Нікадзімавіч (02155) 21-784* | | ***28*** | + | | *3* | *1* |
| *14* | *Наваполацкая гарадская арганізацыя* | *Рымша Алесь Георгіевіч т. (8-0214) 52-71-94* | *39* | ***58*** | - | | *30* | *2* |
| *15* | *Мёрская раённая арганізацыя (пастаўлена на ўлік як суполка)* | *Ролік Міхаіл Міхайлавіч (8-02152) с. 21-050* | *42* | ***53*** | + | | *4* | *2* |
| *16* | *Лёзненская раённая арганізацыя* | *Космыкаў Міхаіл Міхайлавіч т. (02138) 2-23-10* | | ***19*** | + | - | - | *1* |
| 17 | Лепельская раённая арганізацыя | Багдановіч Алена Іванаўна (8-02132) х. 4-36-94 | | **19** | - | - | - | |
| *18.* | *Глыбоцкая раённая арганізацыя* | *Барткевіч Таццяна Фёдараўна(02156) х. 2-41-00* | *9* | ***26*** | + | - | *4* | *1* |
| *19.* | *Гарадоцкая раённая арганізацыя* | *Гаравы Леанід Антонавічт. (8-02139) х. 23-842* | *10* | ***59*** | + | - | *1* | *1* |
| 20. | Дубровенская суполка | Мацулёў Мікалай Пракопавіч (школа-інтэрнат) | | **4** | - | - | 1 | |
| 21. | Докшыцкія раённыя суполкі | Васілевіч Ніна Аляксандраўна(02157) 3-69-23 | | **16** | - | - | 1 | |
| 22. | Браслаўская суполка | Зінкевіч Ганна Валер’еўна | | **12** | - | - | 1 | |
| *23* | *Бешанковіцкая суполка* | *Гракун ВалянцінаІосіфаўна(02131)2-26-93* | | ***11*** | + | - | *1* | |

**Гомельская абласная арганізацыя**

*По стану на 01.09.03 арганізацыя налічвала **380** сяброў*
*(Курсівам пазначаны арганізацыі, якія стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады.)*
*Колькасць дэлегатаў на 8 з’езд: 6 чал.*

| № п/п | Назва арганізацыі (суполкі) | Старшыняі яго тэлефон | К-сць пасв. | К-сць сяброў | Складкі за2002 г. | Складкі за 2003 г. | Падпіс. на НС | К-сць дэлег. на з’езд |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Акцябрская раённая арганізацыя | Волкава Ніна Трафімаўна т. (02357) 3-26-80, 3-26-27 | 1 | **26** | — | — | — | |
| 2. | Жлобінская гарадская арганізацыя | Сідарэнка Валерый т. с.(02334) 5-45-47 | 1 | **9** | — | — | 4 | |
| *3.* | *Светлагорская гарадская арганізацыя* | *Болбас Вадзім Іванавіч т. х. (02342) 2-02-04* | *4* | ***26*** | — | — | *5* | *1* |
| 4. | Рэчыцкая суполка | Пяшкун Наталля Аляксандраўна | 1 | **7** | — | — | 1 | |
| *5.* | *Мазырская гарадская арганізацыя* | *Піскун Людміла Аляксееўна т. (02345) 2-33-53, (02351) 3-43-61* | *39* | ***63*** | + | — | *8* | *2* |
| 6. | Калінкавіцкая гарадская арганізацыя | Рабянок Дзяніс | 1 | **10** | — | — | 2 | |
| 7. | Гомельская гарадская арганізацыя | Паўлавец Зміцер Змітравіч т. 56-32-73 | 72 | **113** | + | — | 40 | |
| 8. | Дабрынская суполка (Ельскі раён) у в. Дабрынь | Дарошчанка Мікалай Мікалаевіч т.(02354) 2-03-17 | 1 | **16** | + | + | — | |
| *9.* | *Жыткавіцкая раённая арганізацыя* | *Нікановіч Васіль Васільевіч, сл. 2-16-32, х. 2-22-01* | *23* | ***110*** | + | — | *26* | *3* |

**Магілёўская абласная арганізацыя**

*По стану на 01.09.2003г. налічвае 421сябра.*
*(Курсівам пазначаны арганізацыі, якія стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады)*
*9 дэлегатаў на восьмы з’езд.*

| № п/п | Назва арганізацыі (суполкі) | Старшыня і яго тэлефон | К-сць пасв. | К-сць сяброў | Складкі за 2002 г. | Складкі за 2003 г. | Падпіс. на НС | К-сць дэлег. на з’езд |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *1.* | *Асіповіцкая раённая арганізацыя* | *Барэль Таццяна Уладзіміраўна т. х. 6-20-30, с. 23-7-76* | *17* | ***26*** | + | - | *5* | *1* |
| 2. | Мсціслаўская суполка | Маліноўскі Юрась Іванавіч т. 8-02240-5-17-19 | 3 | **5** | + | - | — | |
| *3.* | *Магілёўская гарадская арганізацыя* | *Украінка Сяргей Сяргеевіч т. (8-0222) 25-65-83* | *15* | ***281*** | + | + | *19* | *5* |
| 4. | Касцюковіцкая суполка | Леўчанка Людміла Пятроўна т. х. (02245) 23-157 | - | **3** | - | - | 2 | |
| *5.* | *Хоцімская суполка* | *Верабей Янка т. (02247) х. 2-35-77, 2-11-51* | *3* | ***11*** | — | — | — | *1* |
| *6.* | *Горацкая раённая арганізацыя* | *Белавусава Валянціна Валянцінаўна т. (02233) х. 50-315,50-638, сл. 2-51-81* | *1* | ***41*** | + | + | *4* | *1* |
| 7. | Чэрыкаўская гарадская суполка | Хахлоў Станіслаў Васільевіч”, т. с. (02243) 2-28-61 | 1 | **7** | - | - | 1 | |
| 8. | Крычаўская суполка | Аўсеенка Ганна | - | **5** | - | - | - | |
| *9.* | *Бабруйская суполка* | *Маліноўскі Віктар Леанідавіч т. х. (0225) 4-18-51, 54-1-22* | *8* | ***22*** | + | - | *8* | *1* |
| 10. | Бялыніцкая гарадская арганізацыя | Войлакава Ала (8-02232) 5-25-94 | — | **10** | - | - | 1 | |
| *11.* | *Шклоўская суполка* | *Грудзіна Аляксандр Пятровіч, х. х. (02239) 32-0-34* | *2* | ***10*** | + | + | *3* | *1* |





# Тэхнічныя параметры ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны"

**Гарадзенская абласная арганізацыя**

*По стане на 01.09.2003 налічвае 1225 сяброў*
*(Курсівам пазначаны арганізацыі, якія стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады.)*
*Дэлегатаў на з'езд: 19*

| № п\п | Назва арганізацыі | Старшыня і яго тэлефон | К-сць пасв. | К-сць сяброў | Складкі за 2002 | Складкі за 2003 | Падпіс. на НС | К-сць дэлег. на з'езд |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Ашмянская суполка | Корзан Уладзімір Сцяпанавіч | - | 11 | зарэг. у 2003 | | 3 | |
| *2.* | *Ваўкавыская рэгіянальная арганізацыя* | *Кавальчук Мікола Міхайлавіч т. т./ф. (01512) 26-797, 2-76-89* | - | *27* | - | - | *8* | *1* |
| 3. | Смаргонская раённая арганізацыя | Дзергачова Любоў Рыгораўна т. (01592) 5-14-98 | 2 | 14 | + | - | 7 | |
| *4.* | *Слонімскія суполкі* | *Трафімчык Таццяна т. х.(01562) 5-40-80* | *34* | *30* | + | + | *3* | *1* |
| 5. | Шчучынская гарадская арганізацыя | Бязмен Васіль Канстанцінавіч т. х. 21-7-81, сл. 2-57-57 | — | 12 | — | — | — | |
| 6. | Мастоўская раённая арганізацыя | Сабасцян Аляксей т. (01515) 2-11-15 | 2 | 57 | + | - | 7 | |
| *7.* | *Лідская (раённая) арганізацыя* | *Анацка Лявон Яўгенавіч т. (01561) х.5-33-42, 3-43-60* | *4* | *412* | + | + | *10* | *5* |
| *8.* | *Лідская гарадская арганізацыя* | *Суднік Станіслаў Вацлававіч т. х. (01561) 5-77-56* | *16* | *204* | + | + | *6* | *3* |
| 10. | Карэліцкія суполкі | Самец Алесь Канстанцінавіч т. (01596) 2-04-18 | 2 | 21 | + | - | 3 | |
| *11.* | *Гарадзенская гарадская арганізацыя* | *Маркевіч Мікалай Мікалаевіч* | *30* | *156* | + | + | *74* | *3* |
| *12.* | *Дзятлаўская раённая арганізацыя* | *Грышан Мікола Паўлавіч т. 21-029* | *3* | *61* | + | + | *3* | *2* |
| 13. | Бераставіцкая суполка | Рамашкевіч Алег Аляксандравіч т. (01511) 2-35-37 | — | 3 | зарэг. у 2003 | | — | |
| *14.* | *Наваградская суполка "Узвышша"* | *Кавальчук Галіна* | *2* | *11* | + | - | *5* | *1* |
| 15. | Воранаўскія суполкі | Фясенка Іван Іванавіч | - | 41 | - | - | 2 | |
| *16.* | *Гарадзенская раённая арганізацыя* | *Сырадоева Тамара Пятроўна* | *1* | *165* | + | + | *28* | *3* |

**Менская абласная арганізацыя**

*По стану на 01.09.2003 г. налічвае 1516 сяброў.*
*(Курсівам пазначаны арганізацыі, якія стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады.)*
*Дэлегатаў на 8 з'езд: 20.*

| № п/п | Назва арганізацыі (суполкі) | Старшыня і яго тэлефон | К-сць пасв. | К-сць сяброў | Складкі за 2002 г. | Складкі за 2003 г. | Пад-ка на НС | К-сць дэл. на з'езд |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *1.* | *Барысаўская гарадская арганізацыя* | *Белы Іван Юр'евіч т. (01777) с. 4-48-47, х. 6-93-47* | *4* | *42* | — | — | *4* | *1* |
| *2.* | *Мікуліцкая суполка (Бярэзінскі раён)* | *Красоўскі Лявон Мікалаевіч т. (01715) х. 32-6-72, с. 32-6-32* | *3* | *12* | + | — | — | *1* |
| 3. | Чэреньская суполка (Фанаты бульбы і піва) | Лазарэвіч Аляксандр т. (01714) 5-42-94 2003 г. | 3 | — | - | 4 | | |
| *4.* | *Клецкая раённая арганізацыя* | *Князева Часлава Вячаславаўна, т. (01793) х. 54-3-95, с. 55-0-68* | *4* | *21* | — | — | — | *1* |
| 5. | Крупская суполка | Аляхновіч Андрэй Пятровіч, т. х. 56-8-96 | 6 | 8 | + | — | 1 | |
| *6.* | *Маладзечанская гарадская арганізацыя* | *Трашчанка Уладзімір Яўхімавіч т. х. (01773) 6-38-20* | *33* | *37* | — | - | *16* | *1* |
| *7.* | *Маладзечанская раённая арганізацыя* | *Руткоўскі Уладзімір Мікалаевіч т. (01773) х. 2-03-35, с. 7-02-60* | *12* | *378* | — | — | — | *3* |
| 8. | Мядзельскія суполкі | Гайдук Ірына Эдуардаўна т. с. (01797) 31-3-46 | — | 14 | — | — | 3 | |
| *9.* | *Менская раённая арганізацыя* | *Кучынскі Валерый Георгіевіч. т. 223-033* | *2* | *33* | + | — | *9* | *1* |
| *10.* | *Нясвіжская раённая арганізацыя* | *Асмыковіч Міхась Мікалаевіч т. (01770) 5-38-30* | — | *18* | — | — | *1* | *1* |
| *11.* | *Пухавіцкая раённая арганізацыя* | *Муха Барыс Ібрагімавіч т. (01775) 75-129, т. х. (213) 4-38-98* | *18* | *47* | + | — | *8* | *1* |
| *12.* | *Салігорская гарадская арганізацыя* | | *17* | *153* | — | — | *3* | *3* |
| 13. | Слуцкая раённая арганізацыя | Курыльчык Мікалай Пятровіч т. (01775) 75-129 т. (8-029) 657-90-45 | — | 31 | — | — | 8 | |
| *14.* | *Смалявіцкая суполка* | *Каржэўскі Віктар Мікалаевіч т. (01775) 75-129* | — | *22* | — | — | — | *1* |
| *15.* | *Смілавіцкая гарпасялковая арганізацыя* | *Кароткі Мікалай Мікітавіч т. х. 53-6-67* | *3* | *20* | + | — | — | *1* |
| 16. | Стаўбцоўская раённая арганізацыя | Бечка Антон Вацлававіч (01717) 3-63-17, 3-74-42 | 6 | 535 | — | — | 9 | 3 |
| 17. | Старадарожская суполка | Юрэвіч Віталій Анатольевіч т. (292) 54-7-59 | 1 | 4 | — | — | 1 | |
| 18. | Уздзенская суполка (у Нізаўскай БШ) | Армонік Сяргей Алегавіч | — | 5 | — | — | 1 | |
| 19. | Вілейская раённая арганізацыя | Ганчарык Таццяна Уладзіміраўна, т. (01771) х. 48-3-44 | 4 | 22 | + | — | 3 | |
| 20. | Заслаўская гарадская арганізацыя | Трубач Таццяна Георгіеўна 544-20-53 | — | 15 | — | — | — | |
| *21.* | *Жодзінская гарадская арганізацыя* | *Лапіцкі Аляксей Іванавіч т. х. (01775) 75-9-10* | — | *96* | — | — | *5* | *2* |

**Менская гарадская арганізацыя**

*По стану на 01.09.2003 налічвае 2046 сяброў.*
*(Курсівам пазначаны арганізацыі, якія стаяць на ўліку ў мясцовых органах улады.)*
*Дэлегатаў на з'езд: 17.*

| № п/п | Назва арганізацыі/ суполкі | Старшыня і яго тэлефон | К-сць пасв. | К-сць сяброў | Складкі за 2002 г. | Складкі за 2003 г. | Пад-ка на НС | К - сць дэлег. на з'езд |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Першамайская раённая арганізацыя | Шагулін Алег Іванавіч 266-51-15 | 88 | 234 | часткова | — | 88 | |
| *2.* | *Кастрычніцкая раённая арганізацыя* | *Грыб Ян Янавіч х. 278-00-92* | *43* | *216* | *часткова* | — | *43* | *3* |
| *3.* | *Партызанская раённая арганізацыя* | *Пашкевіч Валерый Васільевіч х. 255-08-13* | *100* | *208* | — | — | *100* | *3* |
| *4.* | *Фрунзенская раённая арганізацыя* | *Чэчат Алесь Віктаравіч х. 258-75-18* | *178* | *371* | *часткова* | *часткова* | *178* | *3* |
| *5.* | *Ленінская раённая арганізацыя* | *Грузнова Тамара Іванаўна249-76-54 хат.* | *161* | *575* | + | + | *161* | *3* |
| 6. | Цэнтральная раённая арганізацыя | Мухіна Леанарда Станіславаўна х. 237-56-12 | 24 | 208 | — | — | 24 | |
| 7. | Маскоўская раённая арганізацыя | Яначкаў Ігар Іванавіч х. 274-62-68, с. 283-02-82 | 31 | 34 | — | — | 31 | |
| *8.* | *Савецкая раённая арганізацыя* | *Галіч Аляксей х. 232-58-95* | *57* | *106* | *часткова* | - | *57* | *3* |
| *9.* | *Заводская раённая арганізацыя* | *Русаў Пятро х. 243-61-22,с. 234-62-14* | *51* | *94* | + | - | *51* | *2* |

# Рада ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" абраная на VII з'ездзе ТБМ

1. Аксак Валянціна Іванаўна, г. Менск.
2. Арлоў Уладзімір Аляксеевіч, г. Менск.
3. Анісім Алена Мікалаеўна (намеснік старшыні ТБМ), г. Менск.
4. Бабіч Юры Міхайлавіч, г. Віцебск.
5. Багданкевіч Святлана Мікалаеўна, г. Менск.
6. Банкевіч Генадзь Уладзіміравіч, г. Менск.
7. Бароўскі Анатоль Мікалаевіч, г. Гомель.
8. Баршчэўскі Лявон Пятровіч, г. Менск.
9. Бураўкін Генадзь Мікалаевіч, г. Менск.
10. Белы Анатоль Яўхімавіч, г. Менск.
11. Булавацкі Міхаіл Пятровіч, г. Магілёў.
12. Гаравы Леанід Анатольевіч, г. Гарадок Віцеб. вобл.
13. Гарановіч Віталь Рыгоравіч, г. Глыбокае Віцеб. вобл.
14. Гарэцкі Радзім Гаўрылавіч, г. Менск.
15. Гілевіч Ніл Сымонавіч, г. Менск.
16. Грыцкевіч Анатоль Пятровіч, г. Менск.
17. Гуркоў Сяргей Мікалаевіч, г. Менск.
18. Дзіцэвіч Людміла Мікалаеўна (першы намеснік старшыні ТБМ), г. Менск.
19. Завальнюк Уладзіслаў, г. Менск.
20. Запрудскі Сяргей Мікалаевіч, г. Менск.
21. Зуёнак Васіль Васільевіч, г. Менск.
22. Іпатава Вольга Міхайлаўна, г. Менск.
23. Камароўскі Мікалай Іванавіч, г.Орша, Віцеб. вобл.
24. Канунніка ва Ніна Паўлаўна, г. Горадня.
25. Кручкоў Сяржук Мікалаевіч (намеснік старшыні ТБМ), г. Менск.
26. Кузьміч Вольга Аляксандраўна, г. Менск.
27. Лапіцкі Аляксей Іванавіч, г. Жодзіна Менскай вобл.
28. Лыч Леанід Міхайлавіч, г. Менск.
29. Малаш Юры, г. Менск.
30. Марачкіна Ірына Сяргееўна, г. Менск.
31. Майсеня Людміла Іосіфаўна, г. Менск.
32. Місьцюкевіч Алесь Іванавіч, г. Горадня.
33. Навумчык Іосіф Адамавіч, г. Віцебск.
34. Новік Марыя Іванаўна, г. Берасце.
35. Палсцюк Валеры Віктаравіч, г. Менск.
36. Паўлавец Зміцер Змітравіч, г. Гомель.
37. Піскун Людміла Аляксееўна г. Калінкавічы Гом. вобл.
38. Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч, г. Горадня.
39. Раманцэвіч Валянціна Карлаўна, г. Менск.
40. Ролік Міхаіл Міхайлавіч, г. Міёры Віцебскай вобл.
41. Рымша Алесь Георгіевіч, г. Наваполацк Віцеб. вобл.
42. Санько Зміцер Хведаравіч, г. Менск.
43. Савіцкі Мікалай Іванавіч, г. Менск.
44. Савіч Валер Уладзіміравіч, г. Пінск Берасц. вобл.
45. Суднік Станіслаў Вацлававіч, г. Ліда Гарадзен. вобл.
46. Содаль Уладзімір Ілліч, г.Менск.
47. Трусаў Алег Анатольевіч (Старшыня ТБМ), г. Менск.
48. Цыхун Генадзь Апанасавіч, г. Менск.
49. Українка Сяргей Сяргеевіч, г. Магілёў.
50. Ялугін Эрнест Васільевіч, г. Менск.
51. Юркевіч Сяргей Іванавіч, г. Маладзечна Менск. вобл.

# Багач у Сейлавічах

***У Селавіцкім сельскім доме культуры Нясвіжскага раёна працягваецца планамерная праца па адраджэнні народных традыцый і абрадаў. Нядаўна мы пісалі пра святкаванне ў Сейлавічах праваслаўнага Іллі, а 7 верасня тут была наладжана свята каталіцкага Багача.***

Свята "Багач" па сваёй абраднай і каляндарнай сутнасці - гэта ніто дажынкі, ніто свята ураджаю навогул. Каталіцкі Багач святкуецца 8 верасня і па часе хутчэй адпавядае дажынкам. 8 верасня святкуецца і хрысціянскае свята Дзень нараджэння Маці Божай.

Свята ў Сейлавічах ладзілася каля тутэйшага касцёла Сэрца Езуса.

Як і належыць, з раніцы нясвіжскі ксёндз Францішак адправіў імшу ў касцёле, паклаўшы пачатак святу.

Пасля імшы ксёндз выйшаў да месца фэсту і пасвянціў багач - жыта ў пасудзіне з уваткнутай свечкай. Наогул то жыта павінна быць у сявеньцы. У Сейлавічах, як і ў большасці мясцін Беларусі жыта сеялі з саламяных каробак ці інакшай паўасмінаў. Гэта той, мабыць адзіны выпадак, калі ў беларускай мове ўжываецца слова "каробка".

Пасля асвячэння багача ксяндзу быў уручаны каравай з новага ўраджаю.

Свецкая частка ўключала ў сябе аповяд пра абрад святкавання Багача. У поўным аб'ёме гэтае свята тут не памятаюць і самыя старыя людзі. Цяжка яго выканаць і зараз. Паводле традыцыі ў багач павінен сыпаць па жмені жыта з першага снапа кожны гаспадар вёскі, ці ў дадзеным выпадку засценка. Але дзе тыя гаспадары зараз? Пасля свята багач павінен стаяць на покуці ў аднаго з гаспадароў да новага ўраджаю. А дзе яго ставіць зараз? У кабінеце старшыні калгаса? Магчыма.

Мастацкая частка свята прыйшлася да густу жыхарам вёскі. Прынамсі свята каля касцёла для многіх пажылых людзей больш прыймальнае, чым у клубе.

Пры ўсім іншым на сёння вельмі важна, каб гэтае святкаванне Багача не сталася аднаразовай акцыяй, а перайшло ў традыцыю, тады адновяцца, або нанава ўстановяцца ўсе тонкасці гэтага вельмі старажытнага абраду беларусаў, што сягае карэннямі аж у дахрысціянскія часы.

*Наш кар.*



З караваем ксёндз Францішак



Якое ж свята без скокаў

# ВЯЛІКІ ЭНЦЫКЛАПЕДЫСТ І ЦУДОЎНЫ ЧАЛАВЕК

5 гадоў таму (14 верасня 1998 года не стала Якава (Якуба) Адамавіча Якубоўскага. Смерць яго для ўсіх была незразумелай, нечаканай, бо ён знаходзіўся ў росквіце сваіх творчых сіл. Пад яго рэдакцыяй выходзіў часопіс "Байрам. Татары на зямлі Беларусі", газеты, кнігі, ён быў адным з складальнікаў і рэдактараў, аўтараў зборнікаў навукова-практычных канферэнцый. Якуб Адамавіч быў дзівосна і багата адораны маці-прыродай вялікай сілай і магутнай энергіяй, незвычайным працалюбствам. А найбольш у гісторыю і культуру Беларусі ўвайшоў як буйнейшы і таленавіцейшы энцыклапедыст. Разам са сваім кіраўніком, акадэмікам і народным паэтам Беларусі Пятрусём Броўкам, Якуб Адамавіч стаяў ля вытокаў нацыянальнага энцыклапедызму, яго развіцця і росквіту, за што ў 1976 годзе разам з іншымі супрацоўнікамі ён атрымаў высокае і заслужанае званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР. Немагчыма пералічыць усе энцыклапедычныя выданні, у якіх ён прымаў удзел, але адно, у якім зіхатліва адлюстраваўся яго несумненны талент і арганізацыйныя якасці, мы напішам – гэта папулярная энцыклапедыя "Прырода Беларусі", якая была ўганаравана срэбным медалём ЮНЕП – праграмы ААН па навакольнаму асяродзю.

Якуб Адамавіч Якубоўскі да скону свайго жыцця вучыўся, меў пяць дыпломаў аб адукацыі і шчодра аддаваў свае веды, ідэі, думкі шматлікім вучням, прыхільнікам і паслядоўнікам, ён меў вельмі шмат сяброў і быў завадатарам шматлікіх культурніцкіх акцый.

Самаадданейшы і самаахвярнейшы сын Беларусі, ён шмат зрабіў для росквіту Бацькаўшчыны і роднай мовы. Калі памёр Якуб Адамавіч, газеты "Культура", "Наша слова" і іншыя адразу ж адгукнуліся з нагоды гэтае вялікае страты для нашай краіны.

Разам з тым, вялікі сын нашай Беларусі быў не толькі яе адраджэнцам, але і такім жа энтузіястам аднаўлення і ўздыму сваіх супляменнікаў. Можна наўпрост сказаць, што ён быў ля вытокаў сённяшняга Беларускага грамадскага аб'яднання татар "Зікр уль-Кітаб".

Пяць гадоў прайшло, як не стала Якуба Адамавіча, які пахаваны на Сміла-віцкім мізары, але яго энергетыка такая, што і сёння яна працуе на нашую Беларусь!

***Ібрагім Канапацкі,***
***кандыдат гістарычных навук,***
***Менск.***
***Міхась Маліноўскі,***
***правадзейны член геаграфічнага таварыства, Баранавічы.***

# "Вашыя кнігі чытаюць", -

так казалі бібліятэкары і школьныя настаўнікі падчас сустрэч з беларускімі пісьменнікамі Вольгай Іпатавай, Эрнестам Ялугіным, Лідзіяй Савік, Вячаславам Корбутам у Петрыкаве, Любані і Старых Дарогах. Сапраўды, іхнія кнігі, некаторыя добра-ткі зачытаныя, стаялі на стэндах, падрыхтаваных да прыезду гасцей, якіх сустракалі шчыра і з павагай.

"Сапраўдным пісьменнікам можна зрабіцца толькі тады, калі творчасць твая вольная ад ідэалагічных штампаў, калі ты стараешся пісаць праўду і зміняць рэчаіснасць, а не падстройвацца пад яе" – гэтыя словы Вольгі Іпатавай, што прадстаўляла сваіх калег, ў паўнай ступені адносяцца да Эрнеста Ялугіна, чыя кніга "Без эпітафіі" аб загубленым сталінскімі рэпрэсіямі Цішку Гартным стала ў 90-я гады бестселерам. Лідзія ж Савік, (якая, дарэчы нарадзілася ў Любані) таксама першаю звярнулася да творчасці пісьменнікаў – эмігрантаў і тэмы свабоднай творчасці ў свабодным грамадстве.

Аб творчасці сваіх землякоў- случакоў, сярод якіх і кніга А. Пашкевіча "Пляц волі" аб дзеячах БНР і славутым слуцкім паўстанні, апавядаў і малады паэт ды празаік Вячаслаў Корбут, дырэктар Літаратурнага фонду. Сустрэчы літаратараў з чытачамі праходзілі ажыўлена, адчувалася, што людзям патрэбна жывое, яркае слова пісьменніка, асабліва такога, хто не закрываецца ў сваім рабочым кабінеце, а вядзе вялікую грамадскую працу.

Так, паэт Сяргей Панізнік арганізаваў на сваёй радзіме ажно тры краязнаўча-літаратурныя музеі, яго добра ведаюць на Міёршчыне, дзе ён нядаўна выступаў разам са сваімі калегамі – мясцовымі творцамі. Вольга Іпатава, якая 1 верасня прыехала ў Псуеўскую СШ, прывезла школьнікам у падарунак каля ста кніг. Сярод якіх творы Ф. Коласа. В. Быкава, кожная такая сустрэча адбірае час ад уласна пісьменніцкай працы, але сёння, калі ў мясцовых крамах амаль няма беларускіх кніг, беларускім патрыётам трэба дбаць аб тым, каб не зарастала літаратурная сцяжына да сэрцаў тых, хто любіць яе вялікасць Літаратуру.

*Ю. Трубец.*



Вольга Іпатава сяпрод настаўнікаў Псуеўскай СШ

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 22. 09. 2003 г.
Наклад 1750 асобнікаў. Замова № 2109.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
*Кошт у розніцу:* 175 руб. (у Менску - 185 руб.)